Светская жизнь

## Свет любви в последний вечер лета

"Незабываемый вечер в конце лета!" — так скромно с афиш и рекламных радиороликов зазывает на конкурс красоты и проводы лета столичный ресторан "Эридан".

Лучшие девушки Беларуси, прошедшие отборочные туры, с помощью профессиональных хореографов подготовили оригинальные танцевальные номера в ритмах рок-н-ролла, блюза, диско и латино. "Аппетитная" нательная живопись — боди-арт — утверждает, что к красивой девушке непременно нужно добавить немного крема, фруктов, вдохновения и фантазии, — и тогда прямо у вас на глазах родится "сладкая крошка". Романтика и экспрессия в откровенно-сексуальных песнях Герды Лайт, которая растопила лед в сердце Кая, просто не смогут никого оставить равнодушным. Украинская группа "Білий кінь" и "Поющие индейцы" из Боливии зажгут чуть ли не вечный огонь в душах и сердцах.

"Клубничкой" вечера обещает стать некий "танец-фантазия", про который в рекламных проспектах написано: "Это не Деми Мур — это гораздо круче! Каждая девушка создаст свой незабываемый образ — может быть, это будет воплощение ваших мечтаний?".

Согласитесь, программа вечера весьма горячительная и убедительная. Правда, меня несколько смутил список так называемого авторитетного жюри конкурса, куда входят Станислав Говорушкин — председатель комиссии Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь, Сергей Посохов — постоянный полномочный представитель Беларуси в уставных органах СНГ, Роман Ананьев — заместитель председателя комиссии Национального собрания Беларуси, Владимир Крук — член совета Республики Национального собрания Беларуси, Егор Хрусталев — ведущий программ Белорусского телевидения, Евгений Крыжановский — актер и режиссер театра "Христофор", Валерий Дайнеко — певец, Михаил Маруга — фотохудожник и Тамара Гончарова — хозяйка агентства моделей "Тамара".

Ясно, что творческим людям на вечере так или иначе придется не только оценивать женскую красоту, но и заниматься творчеством. Петь, плясать и развлекать публику — их работа. А вот будут ли на зажигательной вечеринке ценители женской красоты от политики заниматься исключительно политикой — вопрос риторический... А может, они просто устали от дел государственных и им в ночь с воскресенья на понедельник захотелось чего-то особенного? Только чего?..

**Марина КОКТЫШ.**

## Эх, матацыклісты...

У вёсцы Мацюшы Полацкага раёна за рулём матацыкла загінуў дашкольнік сямі гадоў. Ён кіраваў матацыклам і, вырулíўшы на паласу сустрэчнага руху, разбіўся насмерць пры лабавым сутыкненні з аўтамабілем.

З пачатку жніўня на дарогах Віцебшчыны загінулі і пакалечыліся 11 матацыклістаў, у тым ліку дзеці. Прадухіленне падобных няшчасцяў — мэта спецыяльнай аперацыі, якую праводзіць зараз абласная аўтаінспекцыя.

**Яўген ГАЙ, БелаПАН.**

## Чтобы молоко и мясо стали вкуснее

Я подобрал коллекцию растений, которые так и называю — целебно-кормовые травы. Их особенности — максимально высокое содержание протеина, сбалансированный набор незаменимых аминокислот, витаминов, микроэлементов и, что особенно ценно, содержание биостимуляторов, по эффективности близких к женьшеню.

Перечисляю лучшие из этих трав.

Многолетники: левзея сафлоровидная, оконник лекарственный, горец Вейриха, горец забайкальский, сильфия.

Однолетники: мальва, амарант.

И молоко, и яйца, и мясо (кроликов, бройлеров, поросят, ягнят) делаются необыкновенно вкусными и целебными.

**Георгий РАСПОПОВ.**

# Калыма-Калыма, дзесяць месяцаў зіма...

*(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)*

У гэтых мясцінах Аймякона з 1941 па 1948 год вязням валёнкі не выдаваліся. Людзі мелі лапці з вяровак і чуні. Адзенне апранalі паношанае, відавочна, знятае з памерлага ці расстралянага. Такія ж парадкі панавалі і на іншых капальнях, дзе давялося пабыць Расціславу Папову — "Верхні Аты-Юрах", "Жалгола".

— Акрамя зняволеных, палітычных і крымінальнікаў, вышэйшага лагернага начальства, былі яшчэ вольнанаёмныя. Яны адразу знаходзілі агульную мову з забойцамі, злодзеямі, разам гулялі ў карты, пілі. Калі ігралі, то абавязкова прайграваліся да бялізны. Мелі багатыя запалярныя пайкі, броню ад фронта, грашовыя надбаўкі — "паўночныя". Усе да аднаго былі камуністамі. І трапілі ў лагер за парушэнні партыйнай дысцыпліны. Вось ім і прапаноўвалі замест турмы "папрацаваць" вольнанаёмнымі ў лагерах. Чаму не пагадзіцца? Гэта ж не на фронце пад кулямі хадзіць. Дарэчы, яны таксама маюць многа ўзнагарод. Іншыя былі горшымі за лагерных аўчарак.

Расціслава Папова выратавала ў прамым сэнсе ад смерці яго будаўнічая спецыяльнасць. У 1938 годзе ён закончыў Мінскі будаўніча-архітэктурны тэхнікум. Меў спецыяльнасць тэхніка-будаўніка. Тады прафесіяналаў увогуле было няшмат. Таму іх цанілі. Даводзілася памахаць ломам, кіркай, рыдлёўкай, пацягаць тачку. Але кантраляваў узвядзенне казарм, жытла, дарог. Аднак пасля адбыцця тэрміну вышэй пасады начальніка ўчастка не ўздымаўся, бо сядзеў. І гэтым сказана ўсё. Пагэтаму абыходзілі прэміямі ўжо па-за лагерам, падазрона ставіліся ў райкамах-абкамах і выканкамах. Савецкая ўлада не прабачае палітычным, як у свой час не прабачала ваеннапалонным. Пляма застаецца на ўсё жыццё.

Неахвотна гаворыць Расціслаў Міхайлавіч пра пачатак свайго шляху ў лагер.

— Афіцыйна мне прад'явілі абвінавачанне ў "раскрыцці дзяржаўнай тайны". Я служыў у Чырвонай Арміі. Быў у армейскай разведцы. Часцяком даводзілася нелегальна пераходзіць савецка-польскую мяжу. Двойчы быў паранены ў сутычках. Зразумеў, што загіну, як многія іншыя. Адмовіўся, калі загадалі ісці ў чарговы раз.

Яго не судзілі ў поўным разуменні судавытворчасці. З Масквы прыслалі рашэнне асобай нарады НКУС: пяць гадоў лагераў. Пасля "накінулі" яшчэ тры...

З 1969 года на пенсіі, але поўнасцю спыніў працоўную дзейнасць праз пяць гадоў. Актывіст абласной Асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій.

**Валерый ЗАДАЛЯ.**
*Гродна.*

Хочаце — верце, хочаце — не верце...

# Будучы тыдзень: зоркі прадказваюць

### Астрапсіхалагічны прагноз на перыяд з 31 жніўня па 6 верасня

***Гэты тыдзень абяцае быць спакойным і роўным. У аўторак і чацвер многім будуць уласцівыя сур'ёзнасць і ўзважанасць у рашэннях і ўчынках. Перыяд, спрыяльны для шырокамаштабных дзеянняў у многіх сферах жыцця. Прычым сур'ёзнасць зусім не падразумявае сухасці і хмурнасці. Канец працоўнага тыдня і выхадныя могуць стаць некалькі напружанымі. Верагодна, з'явіцца схільнасць да надта хуткіх рашэнняў і неабгрунтаваных дзеянняў, што можа накаліць эмацыянальную абстаноўку, таму зоркі раяць у гэтыя дні адысці ад сур'ёзных спраў і паўнацэнна адпачыць. Найбольш цяжкімі могуць стаць 4 і 6 верасня, а самымі ўдалымі — 31 жніўня, а таксама 1 і 2 верасня.***

**АВЕН.** Сур'ёзнага падыходу запатрабуе ад вас праца. Не спяшайцеся з вывадамі. Правільная ацэнка ўласнага ўзроўня майстэрства дапаможа вам у гэты час многае бязбольна змяніць. У сярэдзіне тыдня лепш устрымайцеся ад няпэўных здзелак і дэталёва ўдакладніце любыя абавязацельствы, якія вы бярэце на сябе альбо ўскладаеце на іншых, — магчыма ашуканства.

**ЦЯЛЕЦ.** Перагляду запатрабуюць на гэтым тыдні вашы творчыя задумкі і ініцыятывы. Праўда, гэта зусім не азначае, што з імі патрэбна расстацца. Проста неабходна падумаць аб тым, як зрабіць іх максімальна зразумелымі для акружаючых. Уменне разумна рызыкнуць прынясе карысць у сумесных з партнёрамі справах і дазволіць аб многім дамовіцца ў першай палове тыдня. Бліжэй да выхадных рызыка і авантуры вельмі небяспечныя.

**БЛІЗНЯТЫ.** Акінуць свежым позіркам сямейныя справы, а таксама планы адносна побыта прыйдзецца вам на гэтым тыдні. Не бянтэжцеся, калі ў чацвер ці пятніцу жыццё прымусіць адкінуць некаторыя з іх. Поспехі на працы дазволяць прыняць вернае рашэнне адносна хатняга ўклада жыцця. У сераду ўстрымайцеся ад рызыкі і схільнасці пайсці на повадзе ўласнай страсці.

**РАК.** Пачатак і сярэдзіна тыдня дазволяць вам добра ладзіць з акружэннем, а ўдала падабраныя словы і ініцыятыва ў кантактах зробяцца залогам паспяховых здзелак і пагадненняў. У другой палове тыдня не спяшайцеся расставацца са змесцівам свайго кашалька, гэта не час буйных набыццяў і сур'ёзных аперацый з грашыма. Ваш дэвіз: "Капейка рубель беражэ".

**ЛЕЎ.** На гэтым тыдні аб'ектам вашай увагі могуць зрабіцца перспектывы ды планы грашовай і маёмаснай сферы. Сумесныя з блізкімі сваякамі справы ў першай яго палове некалькі аблегчаць праблему як здабычы, так і траты грошай. У канцы тыдня пастарайцеся свае тлумачэнні зрабіць гранічна выразнымі і яснымі. Залішнія мудрагелістасць і хітрасць завядуць у тупік у першую чаргу вас саміх.

**ДЗЕВА.** На гэтым тыдні вам прыйдзецца ўдзяліць увагу ўласнаму знешняму выгляду. У аўторак-сераду, набываючы абноўкі, прыслухайцеся да парад знаёмых — іх дапамога выявіцца карыснай і дарэчнай. А вось бліжэй да выхадных здолейце правільна суразмерыць свае патрэбы, гэтая працэдура дазволіць пазбегнуць памылак у грашовых справах.

**ШАЛІ.** Верагодна, вам на гэтым тыдні прадстаіць стаць даследчыкам глыбінь уласнай душы. Ад таго, наколькі самастойна і шчыра гэта будзе зроблена, залежаць матывы вашых далейшых паводзін. У першай палове тыдня здольнасць захаваць у тайне свае намеры дазволіць папоўніць кашалёк і знайсці большую ўпэўненасць ва ўласных сілах. Праўда, гэты факт не азначае неабходнасці выпінацца перад сябрамі ў канцы тыдня.

**СКАРПІЁН.** "Чалавек мяркуе, а Бог размяшчае" — гэтая сентэнцыя стане для вас дэвізам гэтага тыдня. Вам прыйдзецца падвергнуць стараннаму аналізу ўласныя доўгатэрміновыя жыццёвыя планы, праекты і адносіны з сябрамі. У пачатку тыдня ваша актыўнасць можа зрабіцца нагодай для шматабяцаючага знаёмства ці ўдзелу ў перспектыўнай і паспяховай задуме. У сераду засцерагайцеся сваіх тайных страсцяў і нядобразычлівцаў. Імкніцеся дзейнічаць сумленна і адкрыта.

**СТРАЛЕЦ.** Ад таго, наколькі сумленна на гэтым тыдні вы прааналізуеце свае прэтэнзіі на значнасць, могуць залежаць вынікі будучых накіраванняў. У сярэдзіне тыдня зоркі раяць надта не афішаваць уласных планаў і задум. Дзейнічайце і высвятляйце адносіны так, каб аб гэтым ніхто з пабочных не здагадаўся.

**КАЗЯРОГ.** На гэтым тыдні вам вельмі непажаданыя далёкія паездкі. Да таго ж прыйдзецца падумаць аб уласных перакананнях і сваім месцы ў жыцці. Рэалізацыя некаторых доўгатэрміновых планаў і сумесная з сябрамі работа дазволіць удала перагледзець сёе-тое з вышэйапісанага. У канцы тыдня ўстрымайцеся ад дэманстрацыі ўласных заслуг, такія дзеянні могуць быць няправільна вытлумачаны акружаючымі.

**ВАДАЛЕЙ.** Гэты тыдзень паставіць перад вамі праблему перамен. Прычым не столькі саміх змяненняў у розных галінах жыцця, колькі прыняцця іх без мудрагелістасцяў і ацэнак. У першай палове тыдня здольнасць "трымаць нос па ветру" дазволіць замацаваць свой аўтарытэт. Бліжэй да выхадных катэгарычна супрацьпаказаны падарожжы і спрэчкі на рэлігійна-філасофскія тэмы.

**РЫБЫ.** Вам прадстаіць разгледзець сваё ўменне знаходзіць кампрамісы і заключаць дагаворы. Праца над уласнымі ідэаламі і дзеяннямі ў згодзе са сваімі перакананнямі дазволіць не памыліцца ў сур'ёзных справах і кантактах у першай палове тыдня.

**Аляксей КАРПІНСКІ.**

Крымінал

## У Брэсце прагрымелі выбухі

У мінулыя выхадныя ў розных раёнах Брэста прагрымелі выбухі. Адна граната была ўзарвана на вуліцы Валынскай, дзе, на шчасце, ніхто не пацярпеў. Другая — у самым бліжэйшым прыгарадзе, так званым у народзе "царскім сяле", дзе будуюцца велізарныя асабнякі. Разарвалася яна ў туалетным пакоі аднаго з дамоў, куды была кінута праз разбітае шкло. Па шчаслівай выпадковасці ні гаспадар, даволі вядомы брэсцкі бізнесмен, ні члены яго сям'і не пацярпелі. Цяпер праваахоўныя органы актыўна вядуць пошук навяўленых тэрарыстаў.

## Ляцелі цыгарэты пад адхон

Арганізаваную злачынную групоўку абясшкодзілі брэсцкія супрацоўнікі транспартнай міліцыі. Сеўшы ўначы ў чыгуначны састаў, які накіроўваўся з Германіі ў Маскву, з буйной партыяй цыгарэт "LM", злачынцы адкрылі кантэйнер і па дарозе да Жабінкі выкінулі 129 каробак. Агульная сума ўкрадзенага — больш чым паўтара мільярда рублёў. Па гэтым факце ўзбуджана крымінальная справа і вядзецца следства. Пакуль вядома толькі, што ў злачыннай групе было некалькі былых спартсменаў і двое раней судзімых.

## Хітрыя...

Спрабуючы ўхіліцца ад мытнага нагляду і выплаты пошлін, некаторыя "чаўнакі", якія ехалі на электрычцы з Польшчы, знайшлі для гэтага арыгінальны спосаб. Пасля перасячэння граніцы па дарозе да Брэсцкага вакзала яны выкідвалі велізарныя сумкі з вагонаў, як непатрэбнае смецце. Праўда, гэта дабро тут жа падбіралі і адносілі свае людзі. Гэта выявілі супрацоўнікі ўпраўлення КДБ, якія сачылі за чалавекам, што падазраваўся ў перавозцы наркотыкаў. Толькі з адной электрычкі яны падабралі добры дзесятак баулаў і затрымалі пецярых чалавек, якія лавілі сумкі. Багаж, які пацягнуў на 400 мільёнаў рублёў, быў апрыходаваны як безгаспадарная кантрабанда ў даход дзяржавы.

**Іван КУКСА.**

# Стихотворный пересказ Библии для детей

**(Продолжение. Начало в №№ 134, 136, 139, 140, 144.)**

## Иаков

*Был для Иакова нелегким путь...*
*Решив в дороге лечь и отдохнуть,*
*Иаков в поле место подобрал,*
*Взамен подушки серый камень взял.*

*И дивный сон Иакову приснился:*
*Сам всемогущий Бог ему явился,*
*В высоком небе, в солнечной короне*
*Он восседал на лучезарном троне.*

*И лестница наверх к Нему вела,*
*И ангелов к ступеням собрала.*
*"Я, Бог отца и деда твоего,*
*Велю: для рода вашего всего*

*Да будешь ты, Иаков, властелин, —*
*Сказал Господь с заоблачных вершин, —*
*И в землях этих да произойдет*
*Великий, мудрый и святой народ.*

*И Сын Мой, помни, выйдет из него,*
*Для вас Христос Я назову его".*
*Проснувшись утром, был Иаков рад:*
*Хотя им был обманут старший брат,*

*Его Господь простил и не оставил.*
*Иаков в поле памятник поставил*
*Из камня, на котором ночью спал,*
*А место это он Вефиль назвал,*

*Что означало, друг мой, "Божий дом",*
*И путь продолжился его потом.*
*Хотел он город отыскать большой,*
*Который был для матери родной.*

*И вот однажды юноша пришел*
*В красивый город, сразу не вошел,*
*А у колодца отдохнуть остался.*
*Народ к колодцу этому стекался:*

*Здесь пастухи своих овец поили,*
*А позже стадо подошло Рахили —*
*Красивой дочери купца Лавана.*
*Его сестра была из Ханаана,*

*И то Ревекка, мой малыш, была.*
*Рахиль Иакова в дом позвала,*
*Лаван был рад племянника встречать,*
*Расспрашивая про отца и мать.*

*Иакова он щедро угостил*
*И погостить любезно пригласил.*
*Лаван двоих сам дочерей растил —*
*Постарше Лию, младшую Рахиль.*

*Хотел Иаков на Рахиль жениться,*
*Но должен был за это расплатиться*
*С ее отцом — таков обычай был.*
*Лаван Иакову так предложил:*

*Пасти семь лет стада его овец,*
*Потом он дочь отправит под венец.*
*Был так влюблен Иаков! Согласился*
*И честно срок назначенный трудился...*

*Прошли семь лет. Лаван, как обещал,*
*Для слуг своих распоряженье дал,*
*Чтоб свадьбу грандиозную сыграли...*
*Когда же гости расходиться стали,*

*Он Лию ночью в комнату послал,*
*Где молодой жених невесту ждал.*
*Иаков думал, что Рахиль пришла,*
*И Лия спать с Иаковом легла.*

*А поутру Лаван стал объяснять:*
*"Пойми, Иаков, замуж я отдать*
*Обязан Лию, старшую, вначале,*
*Не находись в обиде и печали,*

*Тебе я в жены и Рахиль отдам,*
*Но ты еще семь лет поможешь нам".*
*И с этим наш Иаков согласился,*
*Не думая, и на Рахиль женился.*

*Господь за труд его вознаградил —*
*Богатством, счастьем щедро одарил,*
*Потомство жены вскоре принесли —*
*Двенадцать сыновей, дочь родили.*

*Особо нравились отцу два сына —*
*Любил Иосифа, Вениамина.*
*Однажды Бог Иакову сказал:*
*"На родину вернуться час настал,*

*Бери семью свою и утром рано*
*Все отправляйтесь в земли Ханаана".*
*Иаков был всегда послушным Богу,*
*И караван отправился в дорогу.*



**Иосифа продают в Египет.**

*Придя к Вефили — месту сновидений —*
*Для Бога щедрых жертвоприношений*
*Свершил старик торжественный обряд:*
*На алтаре сожгли троих ягнят.*

## Сны Иосифа

*Старел Иаков — мать похоронил,*
*Отца, жену — и сам едва ходил...*
*Тем временем взрослели сыновья,*
*Иосифа любила вся семья.*

*Отец его лелеял и хранил,*
*Одежду яркую ему дарил...*
*Иосиф как-то братьям рассказал,*
*Что странный сон он ночью увидал:*

*Как будто с братьями снопы вязали,*
*Снопы всех братьев вокруг стали*
*Снопа Иосифа и поклонились...*
*Вдруг на Иосифа все разозлились:*

*"Неужто царствовать ему над нами?*
*Мы не поверим, не серди нас снами!"*
*Но новый сон Иосифу явился:*
*Ему круг звездный низко поклонился,*

*Одиннадцать звезд ярких было там,*
*С луною солнце кланялись к ногам...*
*А этот сон расстроил и отца —*
*Не будет ли правитель из юнца?*

*Старик его однажды подозвал,*
*Велел, чтоб братьев в поле отыскал —*
*Давно угнали скот они пасти,*
*Не приключилось ли беды в пути.*

*С трудом Иосиф отыскал стада,*
*Но здесь его уже ждала беда —*

*Решили братья, что его убьют,*
*Одежду брата на куски порвут,*

*Ее потом в крови ягнят измажут,*
*Придя домой, Иакову расскажут,*
*Что дикий зверь Иосифа сгубил.*
*Но старший брат, Рувим, их попросил*

*Иосифа родного пощадить*
*И только в ров глубокий посадить.*
*Посовещавшись, согласились братья,*
*И тотчас юношу, крича проклятья,*

*Раздев, упрятали в глубокий ров —*
*Теперь Иосиф не увидит снов...*
*Обедать сели злые братья вместе.*
*Как раз в то время, в этом самом месте*

*Шел караван египетских купцов.*
*Сказал Иуда: "Братья, я готов*
*Купцам сейчас Иосифа продать.*
*На эти деньги будем пировать!"*

*Жестоко так они и поступили —*
*Тотчас купцы Иосифа купили.*
*Иосиф бедный плакал и страдал,*
*Но уходящий караван его забрал.*

*Чтоб избежать отцовского проклятья,*
*Между собой договорились братья*
*Одежды брата кровью окропить*
*И с ними слуг к Иакову пустить...*

*Рыдал Иаков, отворивший двери —*
*Его любимца погубили звери,*
*Неужто снам Иосифа не быть,*
*Не пожелал ли их Господь забыть?*

* * *

## Ліст у рэдакцыю

**Паважаная газета!**

**Мы былі вельмі здзіўлены, калі ўбачылі на тваіх старонках вершаваны пераклад Біблii для дзяцей, падрыхтаваны Скрыпкіным. Ніяк не можам зразумець, чаму Вы гэта зрабілі? Да школьнай русафобіі вы дабаўляеце рэлігійна-духоўную. Дзеці закон Божы павінны пачынаць вывучаць менавіта толькі на беларускай мове. Калі, вядома, мы хочам нейкага духоўнага адраджэння.**

***в. Касмовічы Нясвіжскага раёна.***

Вось такі ліст атрымала "Народная воля" ад ананімнага чытача з вёскі Касмовічы Нясвіжскага раёна. Ну што тут сказаць? З аднаго боку, аўтар мае рацыю. Добра было б такі вершаваны пераказ Біблii даць на беларускай мове. Але, на жаль, пра такі варыянт мы не ведаем. Бо, мабыць, яго пакуль наогул няма. Знойдзецца — надрукуем. А пакуль працягваем знаёміць юных чытачоў з тым пераказам, які прапанаваў рэдакцыі спадар Скрыпкін.

## Беларускі рэспубліканскі фонд фундаментальных даследаванняў аб'яўляе конкурс "Навука-98М" на саісканне грантаў для маладых вучоных

Беларускі рэспубліканскі фонд фундаментальных даследаванняў (БРФФД) аб'яўляе конкурс "Навука-98М" на саісканне грантаў для маладых вучоных ва ўзросце да 35 гадоў — навуковых работнікаў, спецыялістаў, аспірантаў, студэнтаў ВНУ — "у мэтах прыцягнення таленавітай моладзі да выканання фундаментальных і пошукавых даследаванняў, стварэння дадатковых стымулаў для эфектыўнай навуковай творчасці".

Фінансаванне работ па адобраных праектах будзе праводзіцца на аснове дагавораў паміж выканаўчай дырэкцыяй фонду і арганізацыямі-выканаўцамі праектаў за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту.

Тэрмін прадстаўлення заявак на конкурс Беларускага рэспубліканскага фонду фундаментальных даследаванняў "Навука-98М" — з 1 верасня па 30 кастрычніка 1998 года.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН.**

Здарэнне

## Аварыя адбылася на адной з будаўнічых пляцовак Брэста

Вытворчая аварыя адбылася на адной з будаўнічых пляцовак Брэста — абвалілася частка рыштаванняў са Свята-Васкрасенскай царквы. Уніз упаў насціл, на якім знаходзіліся чатыры чалавекі. Усе яны атрымалі траўмы. Стан адной рабочай вельмі цяжкі, і яна знаходзіцца ў рэанімацыйным аддзяленні абласной бальніцы. Тэхнічная інспекцыя і пракуратура Маскоўскага раёна Брэста заняліся вывучэннем прычын аварыі.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

## Пятница, 28 августа

### БТ

**07.00** Доброе утро, Беларусь!
**08.00, 13.00, 15.00, 18.00, 00.10** Новости.
**08.15** Родное слово.
**08.50** Потребительская корзина.
**09.05** Усадьба.
**09.30** "Переход".
**09.55** "Судьба моя и надежда".
**10.20** Королевская охота.
**11.05** Сериал "Блистательные Азераки".
**12.00** "Кинотавр-98".
**12.25** "А музыка звучит...".
**13.10** Х/ф "Он, она и дети".
**14.25** Окружающий мир.
**15.10** Видеокурс французского языка.
**15.35** Сериал "Девочка и океан".
**16.00** Родовод.
**16.30** Телеигра "Риск-версия".
**17.00** Уроки Н.Новожиловой.
**17.30** Д/ф "Экспозиция".
**18.20** Сериал "Блистательные Азераки".
**19.15** Слово Митрополита Филарета на празднике Успения Пресвятой Богородицы.
**19.25** "Сегодня с вами...".
**20.00** Белорусский хит-парад.
**20.05** Бездельник.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.55** "Банка комиксов".
**22.15** Х/ф "Продажные против продажных".
**00.00** Автопарк.
**00.25** "Видеопроцесс".
**00.40** Мотоспорт. Супербайк-98.

### ОРТ

**08.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.20** Новости.
**08.15** Сериал "Роксолана — пленница султана".
**09.05** Клуб путешественников.
**09.55** Смак.
**10.15** Домашняя библиотека.
**10.25** "Играй, гармонь любимая!".
**11.15** Программа "Вместе".
**14.20** Фильм-сказка "Ослиная шкура".
**15.40** Мультфильм "Иван и Митрофан во дворце".
**15.55** "Улица Сезам".
**16.25** "Чердачок Фруттис".
**17.20** Сериал "Роксолана — пленница султана".
**18.10** Здоровье.
**18.45** "Поле чудес".
**19.45** "Спокойной ночи, малыши!".
**20.00** Время.
**20.40** Коломбо в детективе "Старый портвейн".
**22.35** Взгляд.
**23.30** Триллер "Не тот человек".

### РТР

**06.30, 10.00, 16.00, 19.00, 23.40** Вести.
**07.30** Православный календарь.
**07.35** Мультфильмы. "Бибигон", "Халифаист".
**08.15** Старая квартира. Год 1959-й. Ч. 2-я.
**09.10** Сериал "Санта-Барбара".
**14.30** Сериал "Собачий мир".
**15.00** "Башня".
**15.30** Сериал "Первые поцелуи".
**16.30** Осторожно, модерн!
**17.00** Сериал "Доктор Марго".
**17.55** "У всех на устах".
**18.25** "Марьина роща".
**19.30** Подробности.
**19.45** "Аншлаг" и Ко.
**20.45** Акуна Матата.
**21.40** Футбол. Суперкубок Европы. "Реал" (Мадрид) — "Челси" (Лондон).
**00.10** Дежурная часть.
**00.25** Творческий вечер Олега Иванова.

### КУЛЬТУРА

**07.05, 13.00, 19.30, 23.00** Новости культуры.
**07.25** "Илзе Лиепа и ее друзья".
**07.40** "Авангард".
**07.55** "Петербургские портреты".
**08.20** Князья, гусары, Мефистофель и пацак, или Герой не нашего времени.
**09.00, 11.00, 15.00, 17.00** Новости.
**09.05** "Российский курьер".
**09.45** Н.Римский-Корсаков. "Испанское каприччио".
**10.00** Х/ф "Ришелье". 3-я с.
**11.05** "Мы были...".
**11.35** Цирк завтрашнего дня.
**12.05** Поет Наталья Илюхина.
**12.15** "Я посох свой доверил Богу".
**12.45** Вместе с Фафалей.
**12.59** Азбука.
**13.15** Спектакль "Хозяйка детского дома". Ч. 2-я.
**14.50** Видеопоэзия.
**15.05** Мультфильмы. "Севильский цирюльник", "Баранкин, будь человеком!".
**15.55** "Лукоморье".
**16.15** Кредо.
**16.30** Театральная провинция?
**17.05** "2003".
**17.10** Кто мы?
**17.40** Размышления под музыку.
**18.10** Д/ф "Фредерик Россиф: красота и ярость мира".
**19.05** Мультфильм.
**19.15** Чудо-сказка.
**19.29** Азбука.
**19.50** "Дуэт для троих".
**20.45** После новостей.
**21.05** Х/ф "Ришелье". 3-я с.
**22.05** "Кумиры". С.Маковецкий.
**22.30** Поет Тина Тернер.

### НТВ

**05.00, 09.00** Сегодня утром.
**08.25** "Русский век".
**09.15** Телеигра "Ключи от форта Байяр" (Франция).
**11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем.
**11.25** "Старый телевизор".
**13.15** Сериал "Любовь и тайны Сансет Бич".
**14.00** Сериал "Красавчик".
**15.20** Дог-шоу "Я и моя собака".
**15.50** Мультфильмы "Ну, погоди!", "День чудесный".
**16.15** Сериал "Удивительные странствия Геракла".
**17.05** Криминал.
**17.15** Впрок.
**17.25** Футбольный клуб.
**18.00, 21.00** Сегодня вечером.
**18.20** Х/ф "Семнадцать мгновений весны". 5-я и 6-я с.
**21.30** Х/ф "Любовь на острове смерти" (1991 г.).
**23.15** Сериал "Байки из склепа".
**23.40** Шоу Николая Фоменко "Империя страсти".
**00.20** Ток-шоу "Сумерки".

### 8-й канал

**18.30** Х/ф "Паника в море".
**20.00** Аэробика "Новый Эдем".
**20.45** Сериал "Горец".
**21.45** Х/ф "Французский поцелуй".



## Частные объявления

### Куплю

Золотые сережки, кольцо с бриллиантом, коронки, цепь. **Тел. 231-70-32.**

### Продаю

Фурнитуру для мягкой игрушки (глазки, носики). **Тел. 234-60-41, 279-84-44.**

Детский трикотаж. **Тел. 262-73-07.**

### Услуги

Выполним плотницкие работы любой сложности быстро, недорого, профессионально, ответственно. **Тел. 242-38-03, 263-55-97**, вечером.

Получение лицензий. **Тел. 277-85-28.**

Настройка пианино. **Тел. 258-48-49.**

### Предлагаю

Клематисы, тюльпаны, нарциссы, мелколуковичные и др. **Тел. 4-11-18** (Дзержинский р-н, д.Боровое).

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 229-28-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 229-29-04.**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**



**Рэгістрацыйнае пасведчанне №246. Нумар газеты надрукаваны з дыяпазітываў у ПП "Мэджык". Адрас: г. Мінск, вул. В. Харужай, 13. Падпісаны ў друк у 21.00. Фармат А-2. Тыраж: суботні — 61050 экз., у другія дні — 55000 экз. Заказ 1023**